АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

23 лютага 2000 года
Цана 60 рублёў

№ 8 (2670)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.

АКТУАЛЬНА

## ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ СТАРТУЕ Ў ЛІПЕНІ

**Нягледзячы на тое, што праект Выбарчага кодэкса ўжо адобраны абедзвюма палатамі Нацыянальнага сходу і падпісаны Прэзідэнтам Беларусі (а менавіта пасля гэтага ён лічыцца канчаткова адобраным заканадаўчым актам), кодэкс па-ранейшаму застаецца прадметам гарачых дыскусій у палітычным асяроддзі. Мы звярнуліся да старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзіі ЯРМОШЫНАЙ з просьбай пракаменціраваць найбольш спрэчныя і дыскусійныя палажэнні кодэкса.**

*— Лідзія Міхайлаўна, найперш растлумачце нашым чытачам, калі, паводле існуючых працэдур, павінны быць прызначаны парламенцкія выбары.*

— Выбары аб'яўляюцца за тры месяцы да даты іх правядзення. Канчатковы тэрмін правядзення выбараў у Беларусі прыпадае на 27 кастрычніка бягучага года. Але гэта будзённы дзень, таму выбары могуць быць прызначаны на 22 ці на 15 кастрычніка. Такім чынам, указ Прэзідэнта пра аб'яўленне выбараў з'явіцца адпаведна да 22 ці да 15 ліпеня гэтага года ў залежнасці ад даты правядзення выбараў. З гэтага моманту стартуе паўнацэнная выбарчая кампанія. Але я думаю, што ў пэўнай ступені яна пачалася ўжо зараз. Яшчэ падчас абмеркавання праекта Выбарчага кодэкса шмат палітыкаў імкнуліся "засвяціцца" на тэлебачанні і ў іншых сродках масавай інфармацыі, спрабавалі неяк заявіць пра сябе. А гэта гаворыць пра пэўныя разлікі на чакаемыя выбары. Не пазней чым праз 5 дзён пасля з'яўлення адпаведнага ўказа будзе апублікаваны спіс выбарчых акруг з указаннем іх межаў і пачнуць ствараецца акруговыя выбарчыя камісіі. Пасля гэтага пачнецца працэс вылучэння кандыдатаў у дэпутаты, на што законам адведзена 30 дзён. Самая гарачая частка выбарчай кампаніі — агітацыйная — будзе ажыццяўляцца непасрэдна напярэдадні выбараў на працягу 30 дзён.

*— Улічваючы, што ўказ можа з'явіцца толькі ў ліпені, вы яшчэ дапускаеце верагоднасць унясення паправак ці змяненняў у Выбарчы кодэкс, напрыклад, дэкрэтам Прэзідэнта?*

— Шчыра кажучы, я лічу кодэкс канчатковым дакументам. Хаця нельга выключыць, што будуць унесены змяненні. Але чаму дэкрэтам? Мы заўсёды можам прыняць папраўкі законам, калі для гэтага ўзнікне вялікая патрэба. Але лічу, што менавіта цяперашні варыянт кодэкса будзе асноўным дакументам на наступных выбарах. Расцэньваю яго як закончаную юрыдычную базу.

*— Такім чынам, вы лічыце ўнясенне якіх-небудзь змяненняў у закон непажаданым?*

— Сапраўды так. Мы былі зацікаўлены, каб кодэкс з'явіўся крыху раней да пачатку выбараў. Папершае, патрэбны час, каб ён быў надрукаваны і выдадзены, распаўсюджаны па ўсіх бібліятэках, трапіў у выканаўча-распарадчыя органы, каб кожны ўдзельнік выбарчай кампаніі змог грунтоўна азнаёміцца з яе правіламі. На маю думку, аб'яўленне выбараў і адначасовае прыняцце кодэкса было б самай вялікай недарэчнасцю, найгоршым сцэнарыем развіцця падзей. А маечы кодэкс яшчэ да аб'яўлення выбараў, мы можам правесці, напрыклад, семінар для прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый. Па-другое, кодэкс прадугледжвае прыняцце Цэнтрвыбаркамам шэрагу падзаконных актаў па тых пытаннях, якія не могуць быць дэталёва апісаны ў кодэксе. Напрыклад, палажэнні аб парадку вядзення перадвыбарнай агітацыі, удзелу назіральнікаў, фінансавання выбараў. Зараз шмат пытанняў узнікне з прадастаўленнем газетных плошчаў кандыдатам для асвятлення сваіх праграм. І ўсе дакументы Цэнтрвыбаркама павінны абапірацца на Выбарчы кодэкс.

*— Тэрытарыяльныя камісіі на парламенцкіх выбарах будуць дзейнічаць у саставе, які захаваўся яшчэ з часу выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў, ці будуць сфарміраваны нанава?*

— Справа ў тым, што тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі ў парламенцкіх выбарах увогуле не будуць удзельнічаць. Для парламенцкіх выбараў ствараюцца акруговыя камісіі па 110 акругах. А фарміравацца яны павінны на аснове сумеснага рашэння прэзідыумаў мясцовых Саветаў дэпутатаў і іх выканкамаў. Будуць таксама

(Заканчэнне на 2-й стар.).

СЛУЖУ АЙЧЫНЕ



Напярэдадні Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь 317-я гвардзейская асобная брыгада ў Віцебску прыняла папаўненне. Больш за 200 навабранцаў далі ўрачыстую клятву на вернасць Радзіме.

НА ЗДЫМКУ: прысягу прымае радавы Андрэй ЮРЧАНКА.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: ФРАНЦЫЯ

**Паважанай рэдакцыі "Голасу Радзімы" жадаю спаўнення ўсіх задум. Вялікі дзякуй, што не забываеце пра нас да гэтага часу. Я не атрымліваю больш ні ад кога пісьмаў, не ведаю, што здарылася. Вельмі хварэю і адчуваю сябе тут безабаронна.**

**Жадаю ўсім дабрабыту.**

**З павагай**
**Кацярына Васільеўна МІЦЬКО.**

СПОРТ

**ПАДРЫХТОЎКА ДА АЛІМПІЯДЫ.** Як паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік міністра спорту і турызму краіны Аляксандр Грыгораў, паводле папярэдняй ацэнкі, у склад беларускай дэлегацыі на Алімпіядзе-2000 у Сіднэі ўвойдуць каля 260 чалавек: да 170 спартсменаў, 65 трэнераў, 10 урачоў і масажыстаў, 15 "дадатковых афіцыйных асоб" (асабістыя трэнеры спартсменаў, навуковыя і медыцынскія работнікі), 6 супрацоўнікаў друкаваных СМІ.

Перад беларускай камандай ставіцца задача выступіць не горш, чым на мінулых Гульнях, дзе яна, як вядома, заваявала 15 медалёў (1 залаты, 6 сярэбраных і 8 бронзавых). На сёння Беларусь заваявала 131 алімпійскую ліцэнзію (права на ўдзел у Гульнях) у 18 відах спорту, у тым ліку 41 ліцэнзію ў лёгкай атлетыцы, па 14 — у кулявой стральбе і плаванні. У трох відах спорту беларусы заваявалі максімальную колькасць ліцэнзій — у спартыўнай гімнастыцы (12 з 12), мастацкай гімнастыцы (8 з 8) і скачках на батуце (2 з 2).

Паводле слоў намесніка міністра, рэальна прэтэндаваць на медалі могуць 32—35 беларускіх спартсменаў у 11 відах спорту. Астатнія ў стане змагацца за месца ў васьмёрцы або возьмуць удзел у Гульнях з прыцэлам на Алімпіяду-2004 (у асноўным маладыя спартсмены).

**ПЛАВАННЕ.** На чарговым этапе Кубка свету па плаванню, які прайшоў у Берліне, удала выступілі беларускія спартсмены. Перамогу на дыстацыі 50 метраў на спіне з вынікам 28, 63 секунды заваявала Ганна Капачэня. Таксама ў скарбонцы нашай зборнай сярэбраны медаль Аляксандра Гухава (200 метраў брасам) і чатыры бронзавыя медалі Дзмітрыя Каліноўскага, Ганны Шчэрбы, Ігара Калядзі і Алены Попчанка (вольны стыль).

**НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** Першага ліпеня 2000 года ў Мінску адбудзецца вянчанне лепшага на планеце майстра настольнага тэніса Уладзіміра Самсонава і яго выбранніцы югаслаўкі Наталлі Нам. Упершыню яны сустрэліся на югаслаўскай зямлі ў час тэніснага турніру. З той пары Валодзя не ведаў спакою, пакуль яго бялявая прыгажуня знаходзілася ўдалечыні ад яго. Наташа вучыцца ў адной з ВНУ Югаславіі, ведае латынь, а таксама англійскую і нямецкую мовы.

**Каця МАЗАКОВА.**

ВІНШУЕМ

**24 лютага народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну спаўняецца 65 гадоў. Уся творчасць паэта пранізана бясконцай любоўю да роднай зямлі, лірызмам і тонкім гумарам. Ён піша лірыку, вершы для дзяцей, перакладае сучасных паэтаў на беларускую мову. Выдавецтва "Мастацкая літаратура" рыхтуе да выпуску трэці том збору твораў паэта, а выдавецтва "Юнацтва" — дзіцячы зборнік Р. Барадуліна "Як воўк калядаваў".**



**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

Рыгор БАРАДУЛІН

### НЕ ХОЧАЦЦА

**Адвіхурыцца сцюжа,**
**Спёка з выраю вернецца,**
**А не хочацца дужа**
**Жыць душы па інерцыі.**

**Па інерцыі рання,**
**Па інерцыі вечара.**
**Думка росная вяне,**
**Як ахрап'е,**
**Што ў сечыве.**

**Аж з запасам населкі,**
**Ад старання пацеючы,**
**Час,**
**Заўчасна ніцеючы,**
**Усміхаецца здзекліва.**

АКТУАЛЬНА

# ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ СТАРТУЕ Ў ЛІПЕНІ

(Пачатак на 1-й стар.).

створаны часовыя ўчастковыя камісіі, тэрмін дзеяння якіх скончыцца адразу пасля выбараў. Тэрытарыяльныя ж камісіі дзейнічаюць тады, калі ўся Беларусь выступае ў выглядзе адзінай выбарчай акругі — падчас рэферэндуму ці прэзідэнцкіх выбараў.

*— У прэсе неаднаразова гаварылася, што распрацоўшчыкі ўлічылі большасць заўваг і рэкамендацый Кансультатыўна-Назіральнай групы АБСЕ. Скажыце дакладна, колькі заўваг улічана, а колькі не было падтрымана? Ці ёсць працэнтныя суадносіны ўлічаных і адхіленых паправак?*

— Аб працэнтных суадносінах я не змагу сказаць. Мы не вялі такой статыстыкі. Але ёсць табліца з канкрэтнымі папраўкамі АБСЕ. Частка іх улічана цалкам. Напрыклад, мы пагадзіліся з прапановай аб адмене абмежаванняў на вылучэнне ў якасці кандыдатаў асоб, якія былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці праз суд. Таксама поўнасцю ўлічана папраўка аб галоснасці ў рабоце выбарчых камісій. Часткова, напрыклад, улічана папраўка адносна зніжэння планкі яўкі выбаршчыкаў (у другім туры галасавання толькі 25 працэнтаў грамадзян). Часткова мы пагадзіліся з папраўкай аб змене парадку праверкі сапраўднасці подпісаў у падпісных лістах, узяўшы за аснову расійскі вопыт. Дарэчы, расійскі выбарчы закон прызнаны АБСЕ дэмакратычным, таму я лічу, што гэтае палажэнне і нашага закона адпавядае дэмакратычным крытэрыям. Такім чынам, калі падлічыць усе заўвагі, то ўбачым, што з 23 паправак КНГ АБСЕ распрацоўшчыкі ўлічылі поўнасцю 9 і 4 — часткова.

*— Раскажыце падрабязней, якія папраўкі адхілены.*

— Адхілены толькі тыя папраўкі, якія супярэчаць Канстытуцыі Беларусі ці не з'яўляюцца прадметам рэгулявання ў Выбарчым кодэксе. Напрыклад, АБСЕ ўказвае, што працэдура адклікання дэпутатаў супярэчыць асновам парламенцкай сістэмы. Але гэтая працэдура закладзена ў нашай Канстытуцыі. Тым больш, што такая працэдура існуе і ў некаторых штатах ЗША. Акрамя таго, АБСЕ не згодная з вялікай колькасцю подпісаў грамадзян, неабходных для ініцыіравання рэферэндуму. Аднак лічба 450 тысяч подпісаў закладзена ў Канстытуцыі. АБСЕ прапаноўвала ўключаць у састаў Цэнтрвыбаркама прадстаўнікоў партый і грамадскіх аб'яднанняў, але гэтая прапанова супярэчыць Закону "Аб Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў" і ўвогуле не з'яўляецца прадметам рэгулявання ў Выбарчым кодэксе. Мы таксама не згодныя, што палажэнне аб свабодным доступе палітычных партый да СМІ павінна быць уключана ў Выбарчы кодэкс. Кодэкс і без таго прадугледжвае падобнае права для ўсіх зарэгістраваных кандыдатаў. І ўжо зусім ніякага дачынення да кодэкса не мае прапанова аб выдачы рэгістрацыйных пасведчанняў партыям па мясцовых адрасах. Гэта датычыцца дэкрэта Прэзідэнта, які прадугледжвае парадак рэгістрацыі і перарэгістрацыі партый. Адзінае, вакол чаго можна неяк спрачацца, — прапанова, што з'явілася ў самы апошні момант, — аб змешанай сістэме выбараў.

*— Дарэчы, прапарцыянальна-мажарытарная сістэма не супярэчыць Канстытуцыі?*

— У Канстытуцыі не ўказваецца канкрэтная сістэма выбараў. Але ў беларускай Канстытуцыі ёсць два адсылачныя артыкулы, якія маюць на ўвазе існаванне мажарытарнай сістэмы выбараў. Па-першае, у адным з артыкулаў указваецца, што абранне дэпутатаў ажыццяўляецца непасрэдна грамадзянамі. А па партыйных спісах непасрэднага галасавання не адбываецца. Па-другое, існуе такая норма, як адкліканне дэпутатаў. Я не ўяўляю, як можна адклікаць дэпутата, абранага па партыйнаму спісу. Але галоўным контраргументам з'яўляецца тое, што мажарытарная сістэма — самая старая і самая распаўсюджаная ў свеце. Для Беларусі яна пакуль застаецца традыцыйнай. А грамадства павінна жыць у адпаведнасці са сваімі традыцыямі. Вядома, сістэму можна змяніць, але для гэтага павінна быць жыццёвая неабходнасць.

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

ФОТАФАКТ




**Сустрэча прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Лінга з прэзідэнтам ААТ "Нафтагазавая кампанія "Слаўнафта" Міхаілам Гуцэрыевым (злева) стала адной з апошніх для кіраўніка ўрада на гэтай пасадзе. 18 лютага Прэзідэнт Беларусі падпісаў Указ аб адстаўцы С. Лінга па яго просьбе. Выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра прызначаны Уладзімір Ярмошын, былы мэр Мінска.**

БЕЛАРУСЬ—ЛІТВА

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ — МАГЧЫМАСЦЬ РАБІЦЬ СВОЙ ВЫБАР

Беларусаў заўсёды цікавіла сітуацыя ў Літве. Па-першае, гэта краіна — наш сусед. Па-другое — як у часы СССР, так і цяпер літоўцы з'яўляюцца прыкладам самапавагі, шанавання мовы і гісторыі.

Па словах Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Йонаса Паслаўскаса, паміж нашымі краінамі існуюць дынамічныя, прагматычныя адносіны. Беларусь па-ранейшаму застаецца адным з найважнейшых гандлёвых партнёраў Літвы, займае чацвёртае месца па экспарту і адзінаццатае па імпарту. У той жа час летась літоўскі экспарт у Беларусь знізіўся (у прыватнасці, з-за спынення паставак электраэнергіі) на 45 працэнтаў.

Асноўная праблема эканамічных зносін — запазычанасць Беларусі (па беларускіх разліках, 66 мільёнаў долараў, па літоўскіх, значна болей) за пастаўленую электраэнергію з Літвы. З сярэдзіны мінулага года падача энергіі з Літвы спынена. Па словах Йонаса Паслаўскаса, існуе восем кампаній (літоўскія, заходнія, літоўска-расійскія), гатовых выкупіць беларускі доўг. У Літве нават збіраюцца аб'явіць сярод іх конкурс. Такім чынам, нам пасля конкурсу плаціць доўг прыйдзецца не ўраду Літвы, а прыватнай кампаніі. Але ж у рэшце рэшт вяртаць грошы належыць Беларусі, магчыма, нават з вялікімі працэнтамі.

Літва вельмі зацікаўлена ў выкарыстанні Беларуссю Клайпедскага порта. Там ствараецца інфармацыйна-каардынацыйны аддзел спецыяльна для транзіту беларускіх грузаў.

І ў той жа час літоўскія прадпрымальнікі незадаволены занадта нізкім коштам тавараў, якія паступаюць з нашай краіны (мінеральная вада, вапна, цэгла, шыфер) і выцясненнем мясцовай прадукцыі з рынку. Таму сярод бізнесменаў ходзяць размовы пра прыняцце антыдэмпінгавых захадаў супраць нашых пастаўшчыкоў. Спадар пасол падкрэсліў, што афіцыйныя органы гэтай праблемай не займаюцца.

На пытанне пра дэмаркацыю беларуска-літоўскай мяжы (650 кіламетраў) Йонас Паслаўскас адказаў, што з боку Літвы яна завершана. Беларускі сектар мяжы таксама ў хуткім часе павінен быць добраўпарадкаваны.

Спадар пасол заявіў: "Беларусь скіраваная ў бок Расіі. Літва — да Еўрасаюза і НАТО. Нашы краіны — прыклад добрасуседства, нягледзячы на розныя арыенціры. Сёння Літва не мае дзяржаў-ворагаў. Нашы ворагі— хаос і нестабільнасць".

Галоўным сваім засмучэннем за час незалежнасці Літвы Йонас Паслаўскас назваў псіхалагічную непадрыхтаванасць людзей да таго, што з набыццём незалежнасці іхнія матэрыяльныя, асабістыя праблемы не знікнуць самі сабой.

Сёння сярэднямесячная зарплата ў Літве — 300 долараў ЗША. Пенсія — каля 100 долараў. Але многія незадаволены высокай платай за жыллё. Напрыклад, трохпакаёвая кватэра ў Вільнюсе абыходзіцца штомесяц у 70 долараў ЗША (з іх 25 долараў — за тэлефон). Пенсіянеры плацяць меней, калі звяртаюцца ў мэрыю па сацыяльную дапамогу.

Галоўным дасягненнем незалежнасці спадар пасол лічыць адсутнасць вонкавага дыктату: "Кожны чалавек асобна і дзяржава ў цэлым маюць магчымасць рабіць свой выбар".

**Алена СПАСЮК**

З ЧАРНОБЫЛЬСКАГА ДЗЁННІКА Арсена САКУНА

# ПОМНІК ЗАГІНУЎШЫМ ВЁСКАМ



*Напамінам пра страшэнныя вынікі чарнобыльскай катастрофы сталі на цэнтральнай плошчы Брагіна манумент загінуўшым вёскам і помнік земляку-пажарніку Васілю Ігнаценку, які першым уступіў у схватку з разгневаным "мірным" атамам.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

"Ці чулі, аварыя ў Чарнобылі, на атамнай станцыі?.." — гэтыя словы былі на вуснах усіх, з кім даводзілася страчацца ранкам 27 красавіка 1986 года. То ў адным, то ў другім месцы райцэнтра збіраюцца людзі, яны ўсялякім чынам імкнуцца да сустрэч з прадстаўнікамі рэспубліканскіх і цэнтральных органаў, якіх зашмат наехала ў Хойнікі і да каго нельга было прыступіцца. Райвыканкам ператварыўся ў штаб-кватэру разнастайных службаў і ведамстваў, дзе амаль на кожных дзвярах таблічка з надпісам: "Пабочным уваход строга забаронены".

Тым часам на чыгуначную станцыю ў Хойнікі прыбываюць саставы з магутнай тэхнікай, адмабілізаванымі рэзервістамі. Несціхана гудуць верталёты, на дарогах — калоны машын. Такога людзі не бачылі тут, бадай, ніколі.

Усё часцей чуюцца такія словы, як "радыяцыя", "зона", "рэнтген", "бэр". Інфармацыя аб аварыі на ЧАЭС з кожным днём усё больш несуцяшальная.

Божа, якое самоцце напаткала нас, палешукоў. Згадваю, як усе мы радаваліся прышэльцу энергетыкі сюды, ездзілі, дзівіліся маштабнаму будаўніцтву і дзеючым энергаблокам. Так гладка ўсё ішло, нават газета "Правда" за некалькі дзён да аварыі інфармавала аб поспехах чарнобыльскіх энергетыкаў. І вось табе на — аварыя на тым самым блоку, калектыў якога толькі што адрапартаваў аб сваіх поспехах...

...2 мая. У раённым штабе нарэшце прымаецца рашэнне аб эвакуацыі дзяцей з 30-кіламетровай зоны. Брыгады паўнамоцных прадстаўнікоў раз'язджаюцца па школах, вёсках прыпяцкай зоны. Пад вечар маленькіх перасяленцаў аўтобусы прывезлі ў райцэнтр. Іх размяшчаюць у інтэрнатах горада і некаторых сельскіх школах у ваколіцах Хойнікаў, некаторых адправілі ў Мазыр.

Многія жыхары райцэнтра і іншых населеных пунктаў вывезлі сваіх дзяцей да родзічаў, сяброў і знаёмых — далей ад небяспечнага месца. Некаторыя кіраўнікі раёна, дэманструючы сваю адданасць дырэктыўным устаноўкам, наладжваюць прагулкі з дзецьмі ў гарадскім парку. Тут жа, на стадыёне, праводзяцца масавыя спартыўныя святы, футбольныя матчы — толькі б адцягнуць увагу людзей ад аварыі.

...3 мая. Грыф сакрэтнасці над лёсам людзей, апраменены радыяцыяй, застаецца. Працягваюцца ўсё тыя ж надакучлівыя нарады кіраўнікоў. Кожны ідзе туды з надзеяй: нарэшце скажуць пра тое, што здарылася. Але чарговая, сённяшняя, адрознівалася ад папярэдняй, бадай, толькі тым, што была непрацяглай, з канкрэтыкі на ёй прагучала рашэнне аб пачатку адсялення ўсіх людзей з 30-кіламетровай зоны. З усіх умоў яго давялі толькі адну: адсяленне праводзіцца часова, праз месяц ці два людзі вернуцца на сваё ранейшае месца пражывання.

Групе ўпаўнаважаных, якую ўзначаліў я, было даручана адсяліць вёску Чамкоў — яна паблізу ад Чарнобыльскай АЭС. Прыбылі мы туды гадзін у 10 раніцы. Па дарозе раіліся, што і як рабіць. Падобным нікому ніколі не даводзілася займацца, таму было многа незразумелага і сумненняў. Больш за ўсё насцярожвала няпэўнасць па тэрмінах перасялення, інтуітыўна кожны адчуваў, што будзе шмат пытанняў у людзей, бо пакінуць хоць на непрацяглы час набытае за ўсё жыццё не так проста і лёгка. Пабылі ў кожным доме, пагаварылі з кожным чалавекам, і ніхто з іх не сказаў, што гатовы пераязджаць. Наадварот, людзі прасілі, каб не чапалі іх, яны



# МІНСК — НА 177-м МЕСЦЫ

Мінск займае 177-е месца па крытэрыях узроўню жыцця сярод 216 буйных гарадоў свету. Пра гэта паведамляецца ў справаздачы аб выніках даследавання, праведзенага амерыканскім цэнтрам Уільяма Мерсера (William M. Mercer Companies LLC).

За эталон (100 балаў) браўся ўзровень жыцця ў Нью-Йорку. Для даследавання былі выбраны 39 крытэрыяў, што вызначалі агульны ўзровень жыцця ў тым ці іншым горадзе. Больш за дзвесце гарадоў ацэньваліся па паказчыках палітычнай стабільнасці, эканамічнай сітуацыі, па стану навакольнага асяроддзя, асабістай бяспекі жыхароў, развіцця сістэм аховы здароўя, адукацыі, грамадскага транспарту. Браліся пад увагу і іншыя фактары.

Пералік узначалілі адразу чатыры гарады, якія набралі па 106 рэйтынгавых ачкоў — Ванкувер, Вена, Цюрых і Берн. За імі ідуць Сіднэй, Жэнева, Окленд, Капенгаген і Хельсінкі. Замыкае доўгі спіс афрыканскі горад Бразавіль, які набраў усяго 23 балы. Мінск атрымаў 50 балаў і займае 177-мы радок. Такім чынам, у беларускай сталіцы лепшы паказчык, чым, напрыклад, у Алматы, Гаваны, Ташкента або Белграда, але горшы ў параўнанні з Масквой, Санкт-Пецярбургам і Кіевам, якія атрымалі па 58 балаў.

Вышэй за ўсіх з прадстаўнікоў краін былога сацлагера ў спісе размешчаны Будапешт: з 91 балам сталіца Венгрыі займае 75-е месца. Крыху менш змаглі набраць Прага (88 балаў, 77-е месца) і Варшава (83 ачкі, 88-е месца). Шчыльнай групай размясціліся прыбалтыйскія сталіцы: Вільнюс (82 балы), Рыга (82 балы) і Талін (78 балаў).

**Юрый ШЫРОКІ.**

---

сябе нармальна адчуваюць, нібы так, што ніякай радыяцыі тут няма, усё гэта выдумкі, ужо колькі пражылі, і ніхто не захварэў...

...Імі і намі кіравала інтуіцыя. Інтуітыўна мы ім раім збірацца ў дарогу, інтуітыўна яны не прымаюць гэтага.

Адправіўшы жывёлу з фермаў і падвор'яў грамадзян, зноў усе мы пайшлі па вёсцы. Гутарылі з людзьмі: прасілі, угаворвалі, раілі. Паступова яны прыходзяць да згоды, збіраюць у вузельчыкі самае неабходнае, займаюць месцы ў аўтобусах. Недзе ў тры гадзіны ночы нарэшце аўтобусы нашы рушылі ў напрамку Хойнікаў. Чую голас жанчыны: "Ой, людцы, не вярнуцца нам больш сюды, не быць тут і не жыць, чуе маё сэрца..."

Пякучы боль сціскае і маю душу, вочы міжволі вільгатнеюць. Я разумею гэтых людзей, падзяляю іх гора. Яны ад'язджаюць сёння ў сваё пакутнае вандраванне, нават не думаючы пра гэта: стрымлівае ад гневу тое, што клопат аб іх бярэ на сябе дзяржава — так было абяцана на момант адсялення. І сапраўды, людзей арганізавана эвакуіравалі з небяспечнай зоны, часова рассялілі, забяспечылі харчаваннем, элементарнымі ўмовамі для пражывання. А што далей?

ПЕРСПЕКТЫВЫ

# БЕЛАРУСКІ КАМП'ЮТЭР TO BE OR NOT TO BE?

## Рэсурс, які ў XXI стагоддзі заменіць нафту

**У кастрычніку споўнілася 40 гадоў першаму камп'ютэру, які выпусціла Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі (МВАВТ). За час свайго існавання аб'яднанне вырабіла больш за 60 працэнтаў усіх ЭВМ, якія знаходзяцца ў эксплуатацыі на тэрыторыі былога Саюза. Калі першая беларуская ЭВМ прынцыпова адрознівалася ад заходніх аналагаў, то з 1996 года пачаўся выпуск сродкаў вылічальнай тэхнікі на базе імпартных вузлоў і камплектуючых. Што такое сучасны беларускі камп'ютэр, якая яго будучыня і ці ёсць яна наогул! Свой пункт гледжання для чытачоў выклаў генеральны дырэктар ДП "МВАВТ" Генадзь СВІДЗЕРСКІ.**

*ДАВЕДКА. Дзяржаўнае прадпрыемства "МВАВТ" заснавана ў 1956 годзе. Найбуйнейшы вытворца сродкаў вылічальнай тэхнікі Беларусі і СНД. Практычна ўся прадукцыя пастаўлялася савецкаму ваенна-прамысловаму комплексу, таму зараз завод — у ліку канверсійных. Цяпер вырабляе камп'ютэрнае абсталяванне, серверы, малагабарытныя дыскавыя падсістэмы, ЭВМ серыі "Мінск-9000", а таксама гарадскія АТС "Бета" і розныя ТНП. Навучальным установам Беларусі пастаўлена 99 камп'ютэрных класаў (1 287 камп'ютэраў), з іх 85 — у 1999 годзе.*

— Гаворачы аб праблемах інфармацыйных тэхналогій наогул і вылічальнай тэхнікі ў прыватнасці, трэба разумець, што XX стагоддзе электрыфікацыі заменіць XXI стагоддзе глабальнай інфарматызацыі. Той, хто будзе валодаць інфармацыяй, валодаць інфармацыйнымі тэхналогіямі, той будзе мець і дынамічнае развіццё. Таму аб'ектыўныя перадумовы для таго, каб Беларусь заняла належнае месца ў галіне інфармацыйных тэхналогій, літаральна зададзены сусветнай тэндэнцыяй. У нас ёсць дастатковы вытворчы патэнцыял і навукова-адукацыйная сістэма.

Дзеля аб'ектыўнасці варта прызнаць, што калі тэхналагічнае спаборніцтва ў вытворчасці друкарскіх плат, электронных кампанентаў мы і ў савецкія часы прайгравалі, то за гады перабудовы адсталі ад Захаду яшчэ больш. У нас няма зараз вялікіх заводаў-аўтаматаў па выпуску вінчэстэраў, маніtораў, працэсараў Pentium II і гэтак далей. З гэтага пункту гледжання наш тэхнічны патэнцыял невысокі. Дарэчы, пасля пераходу МВАВТ у 1996 годзе да вырабу СВТ на базе імпартных вузлоў і камплектуючых праблемы кампанентаў для нас не стала. Як па тэхнічнаму ўзроўню, так і па якасці, надзейнасці, энергаспажыванню мінскія сродкі вылічальнай тэхнікі адказваюць сусветным патрабаванням, пра што гавораць хаця б перамогі ў 55 тэндэрах на пастаўку абсталявання, праведзеных за апошнія два гады.

Па элементнай базе мы адстаём перш за ўсё ў цане. Разлікі паказваюць, што арганізацыя масавай вытворчасці ў Паўднёва-Усходняй Азіі з яе круглагадовым летам будзе таннейшай, чым на МВАВТ з яго празмернай колькасцю работнікаў і карпусоў. Не сакрэт, што ні IBM, ні COMPAQ самі не вырабляюць друкарскія платы, нейкія жгуты або кабелі, яны размяшчаюць гэтыя вытворчасці ў трэціх краінах. Прычым кампанія-інвестар назначае ў СВ свайго кіраўніка, праводзіць навучанне, завозіць абсталяванне, пастаўляе матэрыялы, укараняе свае стандарты якасці. Арганізуецца нешта накшталт фірменнага "астраўка", напрыклад, IBM пад Пекінам, дзе размешчаны магутнасці па вырабу мільёна вінчэстэраў у год.

***— Калі наша адставанне па элементнай базе такое сур'ёзнае, ці не стане беларускі камп'ютэр аналагам "Гарызонтаў" і "Віцязяў" у тэлевізійнай галіне?***

— У даным выпадку выкарыстанне праграмна-апаратных комплексаў вызначае патрэбу ў тых або іншых кампанентах, але не наадварот. Таму "Інтэграл" запатрабуе большых інвестыцый для свайго хаця б адноснага набліжэння да сусветнага ўзроўню. Так, транснацыянальная карпарацыя Intel інвесціруе 500 мільёнаў долараў у працэсар Pentium III. Зразумела, што для Беларусі інвесціраваць такія грошы нерэальна. Таму мы не павінны ісці ў элементную базу, у вытворчасць вузлоў, якія самі па сабе не прывядуць да значных рэінвестыцый. І не толькі з-за цаны, якую можна зрабіць "канкурэнтаздольнай" пры дапамозе мытных бар'ераў і іншых "заслон". У канчатковым жа выніку "дапаможная" тэхніка, якая выкарыстоўваецца ў Беларусі, павінна вызначацца якасцю, надзейнасцю і цаной.

Камп'ютэр сам па сабе нікому не патрэбны — патрэбна інфармацыя. Яна павінна быць даступнай, нагляднай, аператыўнай і лёгка апрацоўвацца. Якасць атрымання і апрацоўкі інфармацыі вызначаюць якраз праграмна-апаратныя комплексы. Таму дзяржава, якая мае нармальныя вытворчыя фонды і падрыхтаваны персанал, павінна і абавязана кантраляваць рынак такіх комплексаў, забяспечваць іх сістэмнае ўкараненне і мэтанакіраванае выкарыстанне. Толькі так Беларусь, не маючы значных інвестыцый, зможа выкарыстоўваць рэсурсы Інтэрнета, захаваць і развіць адукацыйны ўзровень спецыялістаў, сфарміраваць нацыянальны рэсурс інфармацыйных тэхналогій.

Ёмістасць камп'ютэрнага рынку Беларусі — 30 мільёнаў долараў штогод, рынку Расіі — больш за мільярд. Не дзіва, што за гэтыя сродкі ідзе барацьба, падчас несумленная. На многія памылкі заказчыкаў аргтэхнікі падштурхоўваюць пастаўшчыкі. Напрыклад, заказчыку ўнушаецца думка, што ён аплачвае неаператыўнасць і груваcткасць буйных вытворчых структур, а малое прадпрыемства вырашае праблемы аператыўна і "па цэнах вытворцы".

Аднак "за кадрам" застаецца не толькі сам стотысячны транснацыянальны канцэрн, але і ўся яго сістэма гарантый і сервісу. Ніякае прадпрыемства ў тры чалавекі не можа мець дастатковай тэхнічнай базы. Спецыфіка данага рынку такая, што малое прадпрыемства не можа гарантаваць адпаведнасць сертыфіката якасці і месца вытворчасці, гарантыйныя тэрміны. Любое МП гатова прадаставіць заказчыку гарантыю на тры гады, хаця не толькі сама дэталь разлічана на двухгадовы тэрмін службы, але і рэдка якое прадпрыемства жыве такі тэрмін, праходзячы перарэгістрацыю кожныя два гады. Праз два гады — іншыя праблемы і задачы, ранейшыя — хоць травою зарасці.

***— "Віцязь" таксама дае гарантыю тры гады на тэлетэхніку.***

— У тым і справа, што "Віцязю" 30 гадоў, і перарэгістравацца яму будзе складана. Мы, дарэчы, таксама ўжо даём асобным заказчыкам гарантыю тры гады, аднак, у адрозненне ад упамянутых безадказных дылераў, МВАВТ і "Віцязь" як мінімум могуць гарантаваць сваю жыццяздольнасць і праз тры, і праз чатыры гады.

Зараз жа фактычна мае месца ўціск айчыннага вытворцы. З-за таго, што я абавязаны правесці тэстыраванне, трэніроўку, праверку, упакоўку, кантроль АТК і толькі потым аддаць тавар спажыўцу, я набываю ў вачах заказчыка адмоўныя рысы на фоне нічым не звязанага дылера. Для мяне ж закон — сусветны стандарт ISO9000 у вытворчасці і магчымасць стварэння карпаратыўных сетак — у эксплуатацыі.

***— Якая ж задача дзяржавы на інфармацыйным рынку?***

— Стандарт, гэта значыць дакладна вызначаныя інтарэсы самой дзяржавы на гэтым рынку, а таксама ясныя крытэрыі эфектыўнасці тых або іншых рашэнняў дзяржаўных інстытутаў у цэлым. Чаго мы хочам? Калі проста камп'ютэрнай пісьменнасці, то для гэтага хопіць імпартных дылерскіх "персаналак". Але калі мы маем намер адрадзіць камп'ютэрную індустрыю, то паралельна неабходна выстройваць новую сістэму адносін паміж міністэрствамі, ведамствамі і іншымі суб'ектамі карпаратыўных сетак. Толькі ў гэтым выпадку можна разлічваць на запатрабаванасць комплексаў МВАВТ, на ўзнаўленне інтэлектуальнага патэнцыялу, спыненне "ўцечкі мазгоў".

Важна зразумець, што розніца ўзроўняў сродкаў ВТ у дакладнасці адпавядае маштабу задач і прэтэнзій карыстацеля: аднаму досыць тэкставага рэдактара, іншаму мала лакальнай вылічальнай сістэмы. МВАВТ жа ў савецкія часы выпускала вылічальныя сістэмы найбольш магутнага класа mainframe, што цалкам адпавядала глабальным задачам і ўзроўню кіраўніцкіх рашэнняў ВПК, МПС і іншых структурных гігантаў. Рухнулі гіганты, а месца mainframe занялі "персаналкі" такія "разнашэрсныя", што звесці іх у адзіную сетку не столькі немагчыма, колькі неразумна.

Напрыклад, у Мінэканоміклі была ў свой час размешчана на mainframe прыкладная задача і база даных. Затым у іх узнікла ідэя купіць "персаналку" і перавесці базу на яе. Перавод гэты вядзецца трэці год, таму што не ўсё так проста. Эканамісты ўказалі на самы "круты" сервер з вялікай памяццю, але ж на mainframe размяшчалася мноства прыкладных задач, якія напрацоўваліся дзесяцігоддзямі. І аказалася, што проста перагрузіць і раскласці "па паліцах" не ўдаецца.

Толькі на базе буйных прадпрыемстваў і інстытутаў, якія маюць вопытных спецыялістаў, якія ўплецены ў эканамічную сістэму дзяржавы, мы можам стварыць не проста схему дылерскіх грузаперавозак, але і ўмовы для адзінай мытнай сеткі, функцыянальнай скразной базы даных Мінэканомікі, Мінюста, іншых ведамстваў і арганізацый. Для стварэння інфармацыйнага рэсурсу, першапачаткова хаця б у сваёй краіне, неабходна распрацаваць канцэпцыю, якая будзе змяшчаць правілы стыкоўкі "інтэрфэйсаў", патрабаванні да суб'ектаў інфармацыйнага абмену.

Якая, напрыклад, сувязь паміж "Мінскэнерга" і Белчыгункай? Аніякай. Больш таго, кожны з іх будуе сваю ведамасную сетку. Гэта значыць, акрамя традыцыйнай раз'яднанасці ведамасных інтарэсаў, зараз літаральна праграмуецца раз'яднанасць тэхнічная якраз у сферы тэхналогіі, якая вызначае стратэгіі развіцця ў XXI стагоддзі. Сусветны вопыт жа ўжо даказаў эфектыўнасць інфармацыйных "колцаў" дзяржаўнага апарату, дзе мытня ўносіць у базу даных наменклатуру і кошт грузаў, энергетыкі — якія прадпрыемствы і колькі энергіі ўжываюць, а тыя, хто займаецца падаткамі, адсочваюць дынаміку паступленняў і выбіраюць аптымальны рэжым і гэтак далей. Ёсць задачы, якія наогул могуць быць вырашаны не інакш, як на міжведамасным узроўні.

***— Складана ўявіць урад або асобнае ведамства ў якасці распрацоўшчыка жыццяздольнай канцэпцыі нацыянальнага інфармацыйнага рэсурсу. І што ён сабою ўяўляе — дзяржзаказ?***

— Я не прыхільнік дзяржзаказу, у мяне пра яго дрэнныя ўспаміны. Хаця быццам бы, як генеральны дырэктар, я павінен яго падтрымліваць, але як спажывец — не хачу разнарадкі. Дзяржава павінна не размяркоўваць, а стварыць звод агульнатэхнічных патрабаванняў, абавязковых для ўсіх суб'ектаў інфармацыйнага рынку Беларусі. Прычым распрацоўшчыкамі такой праграмы могуць выступаць МВАВТ, НДІ, ЭВМ, Інстытут кібернетыкі НАНБ. Яна зацверджана Мінпрамам і заклікана зрабіць абавязковым узгадненне ведамствамі сваіх праграм перааснашчэння СВТ з выпрацаванымі патрабаваннямі да ўвязкі сетак, ЛВС, падключэння да інфармацыйных рэсурсаў, абароны інфармацыі і гэтак далей.

Наступны крок пасля канцэпцыі камп'ютэрнай вытворчасці — экспарт праграмна-апаратных комплексаў у Расію і краіны СНД. Па сутнасці, мы становімся экспартнаарыентаваным прадпрыемствам, бо ўжо прапаноўваем і рэалізуем у Расію лічбавыя АТС, СВТ і суправаджэнне ў комплексе. Што тычыцца праграмных прадуктаў, то 60 працэнтаў заказаў нашага сумеснага з IBM прадпрыемства — з далёкага замежжа. На далёкае замежжа працуюць і 60 праграмістаў БДУІР. Перад Акадэміяй навук ставіцца задача стварыць уласны суперкамп'ютэр.

Толькі пасля зацвярджэння на расійскім рынку можна будзе гаварыць пра выхад на сусветны рынак інфармацыйных тэхналогій. Аднак задача вартая намаганняў. Як мінімум на трэцяе тысячагоддзе нам адкрыецца рынак, які хутка расце і ўдзел у якім не абмежаваны наяўнасцю ў краіне нафты або бурага вугалю, а патрабуе толькі ўвагі да сацыяльнага рэсурсу — інтэлекту грамадзян. Задача адраджэння камп'ютэрнай індустрыі не з'яўляецца чарговай "чорнай дзіркаю", яна толькі гаворыць пра неабходнасць для Беларусі заняць у век інфарматызацыі больш прыстойнае месца, чым астравы ў акіяне.

Гутарыў **Сяргей ВАСІЛЬЦОЎ.**

("Белорусская газета").

АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ

# ДЗЕ МОЙ ПАЧАТАК?

Гэтае пытанне прымусіла мяне задумацца: хто я і які. Мы дома "пралічылі" сваіх продкаў да сёмага калена, але гэта не дапамагло мне зразумець сябе: усе мае прабабкі і прадзеды жылі сваім жыццём і ў свой час. Яны былі такія розныя — дваране і мяшчане, сяляне і майстравыя, старaверы і каталікі, рускія і латышы, палякі і беларусы. Што перадалося ў спадчыну мне? Памяць, а яшчэ, напэўна, гены.

У нас у Латгаліі спакон веку жылі людзі розных нацыянальнасцей. Не трэба глядзець у пашпарт, назвы вёсак гавораць самі за сябе: з аднаго боку — Гарбуноўка, з другога — Нюкшы, а з трэцяга — Летні Кут. Сёння акрэслены межы паміж краінамі, але ці праходзяць межы паміж людзьмі?

...Лета мы праводзім у вёсцы. Аднойчы дарослыя павезлі нас у Лідзенскі музей. Я не чакаў ад гэтай паездкі нечага асаблівага, але атрымалася інакш. Тады я даведаўся пра героя Айчыннай вайны 1812 года Якава Кульнева і ўпершыню падумаў, што ж звязвае чалавека з яго краем.

Нам расказалі, што музей размешчаны на ўскраіне горада, у прасторнай сядзібе, якая раней належала гараднічаму Пятру Кульневу. Яго сын Якаў скончыў кадэцкі корпус і стаў рускім ваенным. Жыццё гэтага чалавека здавалася мне легендай: удзельнік Турэцкай вайны, польскай і шведскай кампаній, Якаў Кульнеў заўсёды вызначаўся смеласцю, нават дзёрзкасцю, за што яго паважалі і праціўнікі. У вайне 1812 года міф пра непераможнасць арміі Напалеона быў разбураны ў час Дрысенскай аперацыі. І я падумаў: гэта ж зусім побач, тут, у Беларусі — не на старонках падручніка гісторыі, не на сумных



музейных стэндах, а на сапраўднай рацэ Дрысе, у вёсцы Клясціца. Генерал Кульнеў узначальваў аперацыю, атакаваў французскага маршала Удзіна, але ў час бітвы быў смяротна паранены. Гісторыя захавала перадсмяротныя словы генерала: "Сябры, не ўступайце ні кроку роднай зямлі".

І тады я ўпершыню задумаўся: што ж такое — родная зямля? Дзе родная зямля ў рускага генерала Кульнева, які нарадзіўся ў латгальскім захалусці і загінуў у беларускім краі? Пра якую зямлю ён думаў, міраючы?

Кожны чалавек назапашвае і захоўвае ў сабе традыцыі, але і заўсёды адкрыты свету, які яго акаляе.

Я яшчэ не магу ўпэўнена сказаць, кім буду — кім стану. З дзяцінства размаўляю па-руску і па-латышску, і мне вельмі падабаецца вучыць беларускую мову, а яшчэ займаюся англійскай і нямецкай мовамі.

Але ўжо сёння я цвёрда ўсвядоміў: прынамсі, культура межаў не ведае.

**Ігар ТРАФІМАЎ,**
**вучань беларускай нядзельнай школы.**
Латвія, г. Даўгаўпілс.

ЛІТАРАТУРНАЯ ГАСЦЁЎНЯ

● **Анатоль КІРВЕЛЬ.**

# АСКЕПКІ ДОЛІ

* * *

Гуляў з дачкой па беразе Фінскай затокі каля Зеленагорска — былых Тэрыёкаў. Чаго толькі ні выносіць мора на ўзбярэжны пясок: стаптаны, без шнуркоў чаравік, пустую бутэльку ад "Фанты", дробна пасечаныя, амаль аднолькавыя па даўжыні аловачкі трыснягу, рудога і змакрэлага, шэрае пёрка — ці то вароны, ці то чайкі, чырвоны, яшчэ не выцвілы абрэзак стужачкі, завязанай на вузельчык, — аскепкі чыйгосьці жыцця, неразгаданага і праз тое таемнага...

Ідзеш па пяску, а нетаропкая хваля змывае за табой толькі што пакінутыя сляды — нібыта і не ішоў, нібыта цябе і не было... А дачушка бяжыць паперадзе і кліча: "Татка! Хутчэй! Глядзі, што я знайшла..."

* * *

Усім хочацца мець.
А як — займець?
Ды проста: аддаць другому лепшае, што ты маеш.

Але аддаць — проста так! задарма! — і не патрабаваць за гэта нічога — бадай, самае няпростае... Бо аддаеш — заўсёды сваё... І заўсёды — упершыню... Бо колькі б ты ні пераконваў сябе, што рабіў гэта бескарысна, усё роўна — у тых ці іншых, але патаемных куточках душы — чакаў за гэта падзякі — ці то нясмелай усмешкі, ці то здзіўленага, але прыязнага позірку... І гэтым усё псаваў: азмрочваў сонечную бясхмарнасць душы і яе непадробны радасны спеў — "ЖЫВУ!"

* * *

Калі ўсяго многа — не разумееш, што гэта.

Калі з гэтага многа табе даюць па кропельцы — адчуваеш, як гэта многа — у параўнанні з тымі, у каго быццам бы і многа...

* * *

Абшарпаны, зарослы, у бруднаватай памятай вопратцы — тыповы пачынаючы бомж...

А на ягонай спіне — шыракаватай, але знясіленай — зграбныя дзявочыя рукі — абшчапілі і не адпускаюць...

Аж няёмка было зазіраць у твар. Адно мімаходзь — як нешта ўкраў — выхапіў зрокам спелыя дзявочыя вусны, а на іх — і горыч, і маленне, і надзея...

Хай бы мяне хто гэтак — аддана, пасярод вуліцы — не саромеючыся анікога...

* * *

Адзінота — бязгрэшная, калі паспеў зведаць усе магчымыя грахі — вялікія і малыя, — аднак не здаволіўся: так і не ведаеш, нашто яны.

Адзінота паможа: толькі ў ёй выспявае адзіна недаравальны і ўжо непапраўны грэх — грэх супраць самога сябе.

І калі ўсвядоміш яго, маеш права паставіць кропку: за гэткаю адзінотаю — бездань...

* * *

Апранулася — як у гады свайго дзявоцтва: доўгая, аж да пятаў, ільняная сукенка, даўно, праўда, не ношаная, і вялікі — у выглядзе хусткі — шаль, з махрамі і кутасікамі, а на галаве — летуценна-неахайная прычоска — каб усё было так, як калісьці...

З разгублена-няпэўнай усмешкай — як усё памянялася! — вадзіла за руку сына, ужо, лічы, дзесяцікласніка, па ашалелым ад сонца Піцеры — так хацелася ва ўсім бляску і зіхаценні паказаць сыночку сваю даўнюю, якая шчэ не памерла, дзявочую мару...

Сынок паслухмяна тупаў за мамуляй, без імпэту разглядваючы шэдэўры архітэктуры, і заклапочана пазіркваў на гадзіннік: ці хутка цягнік, які павязе іх нарэшце дамоў, у Бабруйск, дзе мэнчылася ў невядомасці і самоце чарнявенькая, з таемнымі карымі вачыма прыгажуня Маруся, пухленькая і вёрткая...

* * *

Бяры ад жыцця ўсё!

І не марудзь — потым будзе позна: і яно, адпаведна, цалкам забярэ ў цябе тое, чым так даражыш цяпер — тваё

УРАЖАННІ

# НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ НАШАЙ КРАІНЫ

## (Вачыма замежнага беларусіста)

Заўсёды прыемна даведацца, што ў іншых краінах свету цікавяцца гісторыяй і культурай нашага беларускага народа. Менавіта да ліку заўважных падзей можна аднесці і нядаўні выхад у Польшчы кнігі вядомага вучонага-гісторыка Яўгена Мірановіча пад назвай "Навейшая гісторыя Беларусі" (Беласток, 1999, на беларускай мове).

Адразу трэба адзначыць, што аўтар рэцэнзуемага выдання з'яўляецца доктарам гістарычных навук, прафесарам, галоўным рэдактарам штотыднёвіка "Ніва". Ён мае шэраг публікацый па розных пытаннях гісторыі Беларусі, стану беларусаў у Польшчы, беларуска-польскіх узаемаадносінах у XX стагоддзі і іншыя. У сваёй новай манаграфіі Я. Мірановіч рознабакова разглядае пытанні сацыяльна-эканамічнага, грамадска-палітычнага і духоўна-культурнага развіцця беларускага грамадства на працягу канца XIX—XX стагоддзяў. Аднак асобую ўвагу аўтар канцэнтруе на савецкім перыядзе гісторыі нашай краіны. У прадмове адзначае, што ў "польскай гістарыяграфіі гісторыя Беларусі на фоне іншых суседзяў Польшчы займае выключна мала месца". Таму аўтар вырашыў своеасаблівым чынам (хаця б часткова) запоўніць гэтую "белую пляму" гістарычнай навукі.

Пачынаецца кніга з аналізу праблем фарміравання беларускай нацыянальнай ідэі ў другой палове XIX — пачатку XX стагоддзяў. Тут аўтар разглядае пытанні, звязаныя з асаблівасцямі ўзнікнення і развіцця беларускай нацыянальнай самасвядомасці сярод прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі (пісьменнікаў, навукоўцаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў), вучнёўскай моладзі. На яго погляд, у працэсе выспявання беларускай нацыянальнай ідэі адыгралі немалую ролю дзейнасць Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ), газеты "Наша ніва", розных літаратурных, выдавецкіх, культурна-асветніцкіх суполак. Прычым пры правядзенні нацыянальна-асветнай і культурнай працы беларускім патрыётам нярэдка даводзілася сустракацца з насцярожанасцю (а часам і адкрытай непрыхільнасцю) з боку некаторых расійскіх і польскіх груповак.

У кнізе расказваецца пра стварэнне БНР і БССР. Прычым аўтар падкрэслівае, што хаця БНР больш увасабляла высокую ідэю, чым рэальнае палітычнае ўтварэнне, аднак яе абвяшчэнне стала сапраўдным каталізатарам стварэння беларускай савецкай дзяржаўнасці.

Як сапраўдны высокакваліфікаваны навуковец, аўтар многія падзеі і з'явы гістарычнага развіцця Беларусі ў XX стагоддзі разглядае дыялектычна, шматгранна. Напрыклад, на аснове ўважлівага навуковага аналізу ён спрабуе паказаць як станоўчыя, так і адмоўныя рысы такіх сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных мерапрыемстваў, як беларусізацыя, індустрыялізацыя, калектывізацыя, новая эканамічная палітыка (НЭП) і да т. п. Аўтар, натуральна, не мог абысці маўчаннем розныя негатыўныя працэсы, якія неаднойчы мелі месца ў беларускай гісторыі на працягу апошняга стагоддзя (барацьба з "нацыянал-дэмакратызмам", з рознымі "ворагамі народа", культ асобы, масавыя палітычныя рэпрэсіі ў 1930-х гадах і іншае).

У кнізе вядзецца размова пра сутнасць і вынікі нямецкай акупацыі Беларусі падчас другой сусветнай вайны, пра асаблівасці аднаўлення разбуранай вайной народнай гаспадаркі, пра спецыфіку развіцця беларускай культуры ў пасляваенны перыяд. Аўтар аналізуе спробы савецкага кіраўніцтва рэфармаваць сталінскую таталітарную сістэму, пераадолець крызісныя з'явы ў сферы эканамічнага і культурнага жыцця. Я. Мірановіч апавядае ў манаграфіі пра паступовае нарастанне гаспадарчага крызісу ў 1970—1980 гады, пра прычыны і наступствы т. зв. "перабудовы", пра развал СССР і стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД). Увогуле, разгляд гісторыі Беларусі даведзены аўтарам амаль што да нашых дзён, дакладней, да канца 1990-х гадоў, калі наша краіна развіваецца (зразумела, не беспраблемна) як самастойная, незалежная дзяржава. Безумоўна, не з усімі аўтарскімі меркаваннямі можна пагадзіцца (напрыклад, з яго ацэнкамі сённяшняй сітуацыі ў Беларусі).

У цэлым жа кніга атрымалася цікавай і змястоўнай, а большасць зробленых высноў падмацаваны шматлікімі аргументамі і фактамі. Таму кніга можа зацікавіць тых, хто вывучае гісторыка-духоўную спадчыну нашага шматпакутнага народа.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

ПОСТАЦІ

● **Леанід ЛЫЧ.**

На пачатку XX стагоддзя ў нашым краі было нямала ксяндзоў, якія душой і сэрцам не прымалі дзейнасць каталіцкага касцёла па апалячванні сваіх беларускіх вернікаў. Выказваліся абгрунтаваныя думкі, што каталіцкае набажэнства, як гэта практыкавалася ва ўсіх еўрапейскіх краінах, павінна весціся на нацыянальнай, г. зн. беларускай мове.

Рабіліся, прычым даволі рашучыя, захады па арганізацыі выдання на гэтай мове рэлігійных кніг, газет для каталіцкага насельніцтва. Рыхтавалі ж такіх прагрэсіўных ксяндзоў у Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі і Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі. Пашчасціла вучыцца і закончыць іх (адпаведна ў 1912 і 1916 гадах) вельмі здольнаму да вучобы юнаку з мястэчка Поразава Ваўкавыскага павета Вінцэсю (Вінцэнту), Вікенцію Гадлеўскаму. Калі ў Вільні ўвесь час ішоў непасрэдна на адоленне прадметаў вучэбнага плана, дык у горадзе на Няве ён захапіўся яшчэ і працай у беларускім культурна-асветніцкім гуртку, што станоўча паўплывала на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці будучага ксяндза.

Шчасліва складваўся лёс В. Гадлеўскага і ў першы перыяд яго святарскай дзейнасці. На працу паслалі ў Менск на пасаду вікарыя (намесніка біскупа ці прыходскага свяшчэнніка) пры кафедральным касцёле. Пад той час Менск ужо быў зусім не такім, як у канцы XIX ці ў першыя гады XX стагоддзяў. Ідэяй нацыянальна-культурнага Адраджэння жылі тут многія інтэлігенты. Сярод іх былі і служыцелі культу, якіх не задавальняла, што царкоўна-рэлігійнае жыццё на Беларусі вельмі мала дастасавана да яе нацыянальных інтарэсаў. Хвалявала, непакоіла гэта і маладога ксяндза В. Гадлеўскага. Ё

# БЕЛАРУСКІ

вельмі хутка далучыўся да актыўнай нацыянальна-самасвядомай інтэлігенцыі Менска, знайшоў поўны давер у яе. В. Гадлеўскі ўдзельнічае ў сакавіку 1917 года ў Менску ў працы з'езда беларускіх нацыянальных арганізацый. Гэта была незвычайная падзея ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. Яна дапамагла многім больш цвярозымі вачыма глянуць на гаротны стан беларускай нацыянальнай адукацыі, культуры і мовы, лепш зразумець, хто ёсць сябра, а хто вораг Адраджэння. Праціўнікі яго ж былі нават сярод саміх ста пяцідзесяці ўдзельнікаў з'езда. Але перамога дасталася не ім. Большасцю галасоў было прынята рашэнне аб неабходнасці ўвядзення беларускай мовы ў педагагічны працэс настаўніцкіх і духоўных (праваслаўных і каталіцкіх) семінарый, адкрыцця ў адным з беларускіх гарадоў вышэйшай навучальнай нацыянальнай установы. В. Гадлеўскі сваёй актыўнай пазіцыяй заслужыў таго, што быў абраны ў склад створанага на з'ездзе Беларус-

[1] ВІНЦЭНТ ГАДЛЕЎСКІ, ПАЛІТЫЧНЫ, ГРАМАДСКІ І РЭЛІГІЙНЫ ДЗЕЯЧ. НАРАДЗІЎСЯ 16.XI.1898 ГОДА. СПРАБАВАЎ ВЫКАРЫСТАЦЬ СУПРАЦОЎНІЦТВА З НЕМЦАМІ ДЛЯ МАБІЛІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЯТЫЧНЫХ СІЛ. У НОЧ НА 24.XII.1942 ГОДА АРЫШТАВАНЫ ГІТЛЕРАЎЦАМІ І ЗАКАТАВАНЫ.



**Беларускі пісьменнік з Санкт-Пецярбурга Анатоль Кірвель, які летась адсвяткаваў свой 60-гадовы юбілей, катэгарычна сцвярджае, што пасля гэтай даты пачаў жыць амаль з нуля — нібыта нанава, бо навакольны свет адкрыўся для яго яшчэ адным, не спазнаным дагэтуль бокам — цэльнасцю.**

**Што ж — пачынаць новае стагоддзе і праўда лепей з нуля. Ці мо прыхапіць у дадатак свядомую цвярозасць мыслення ды ўласцівую, напэўна, кожнаму беларусу паэтычнасць успрымання рэчаіснасці!**

**Адказ дасць жыццё.**

**Дык — у добры шлях, чытач!**

беспраблемнае, ды ці патрэбнае каму жыццё...

* * *

Кожны будуе той свет, які яму зразумелы. І кожны лічыць, што будаўнічай адукацыі яму не трэба: маўляў, усё гэта спрадвек у крыві.

Кроў, аднак, не ва ўсіх аднолькавая: першую групу можна пераліваць усім, чацвёртую — толькі чацвёртай — самому сабе, значыцца...

Свет, пабудаваны донарам чацвёртай групы, ані не падыдзе ні першай, ні другой, ні трэцяй — кроў не тая...

* * *

Недзе пад пяцьдзесят яму ўздумалася памяняць свой імідж.

Не-е, кашуля засталася тая самая, і штаны таксама, а вось стрыгчыся ён пачаў не так: хоць і пад бокс — як і дагэтуль, — але адрасціў сабе шчэ невялічкую, ледзь прыкметную пакуль касічку — як у маладых бэйбусаў, — і, каб гэта заўважылі, ганарліва круціў галавой — тудысюды, але нясцерпнае жаданне — адчуць прыемны, які яго задаволіў бы, важкаваты цяжар на патыліцы — пакуль не спраўджвалася: касічка была кволенькая — як парсючкоў хвост.

* * *

Аддавацца марам — марнаваць час.

Аднак толькі марнуючы час — не здраджваеш самому сабе — марыш!

* * *

Гладкія чорныя штаны з тонкай, добра адпрасаванай стрэлкай, а на нагах — шэрыя, з бліскаўкамі, шкарпэткі, нязношаныя, амаль што з крамы...

Неверагодная прадбачлівасць ды разлік: каб у любы момант — і — гатовенькім! — у труну...

А твар — яшчэ бадзёры, хаця вочы — стомленыя... Напэўна, гэта яны падгледзелі дзесь той уражлівы хаўтурна-ўрачысты момант, які цяпераКа для яго ўсё: і свята, і агледзіны — апафеоз ягонай прыстойнасці, паслухмянасці ды правільнасці.

Во дзе сапраўды не запэцкаешся, рыхтуючы такога да труны: ані плямінкі на сумленні...

* * *

Відушчы — гэта не той, хто "відзіць" або хто нечакана набыў зрок.

Відушчы той, хто мае ў гэтым патрэбу.

* * *

Наіўнае чалавецтва — на зыходзе нашага стагоддзя — амаль не заўважае, што канчаткова развітваецца са сваімі ідэаламі і ілюзіямі — жыць па справядлівасці — каб усім было ўсяго, — і мітусіцца, не ведаючы, што лепш: прагматызм без душы ці душа ў аздобе прагматызму?

* * *

Вось ужо й лета мінула — не відаць ні стройных ножак, ні спакуслівых пухлінак ушчэнт разняволеных сонцам жаночых целаў — адны голыя думкі — як голае — без аднюткага лісточка — вецце... Суцэльная паэзія самоты...

Зашыцца ў снег — перачакаць зіму, — а вясной — адно капяжы ад той самоты — бо хутка лета — і... усё спачатку?

* * *

Пабудуй хату з люстэркаў — хутчэй убачыш тое, кім здаешся астатнім.

* * *

Не вер нікому — вер самому сабе: не памылішся! Калі вера — не памылковая.

## РЭХА КІНАФЕСТЫВАЛЮ



ІІ Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў летась прайшоў у Брэсце. На суд журы і гледачоў былі прадстаўлены творчыя працы рэжысёраў, аператараў, акцёраў, створаныя за два апошнія гады.



*Народны артыст Беларусі Уладзімір ГАСЦЮХІН.*

Фільмы дэманстраваліся ў брэсцкім кінатэатры "Беларусь" — цэнтры фестывалю, а таксама ў Камянецкім, Брэсцкім, Кобрынскім і Маларыцкім раёнах. Усяго было паказана 14 мастацкіх, 8 анімацыйных і 38 дакументальных фільмаў. Галоўны прыз фестывалю атрымаў за лепшае ўвасабленне нацыянальнай тэмы аб адраджэнні беларускай святыні — крыжа прападобнай Ефрасінні, ігуменні Полацкай, фільм творчага аб'яднання "Тэлефільм" "Дабро рабі" рэжысёра Уладзіміра Шавялевіча. Прыз атрымаў аўтар сцэнарыя Уладзімір КУПРЫЕНКА (на верхнім здымку).

**Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.**

*(Працяг тэмы на 8-й стар.).*

# КСЁНДЗ ВІНЦЭНТ ГАДЛЕЎСКІ[1]

кага нацыянальнага камітэта (БНК). Усяго ў яго ўваходзіла 18 чалавек, у тым ліку такія дзеячы Адраджэння, як Змітра Жылуновіч (літаратурны псеўданім Цішка Гартны), Казімір Кастравіцкі (літаратурны псеўданім Карусь Каганец), Алесь Бурбіс, Вацлаў Іваноўскі, Аркадзь Смоліч, Фабіян Шантыр.

Наяўнасць сярод сяброў Беларускага нацыянальнага камітэта і іншых арганізацый прагрэсіўных асоб каталіцкага веравызнання ініцыiравала пошукі шляхоў павышэння ролі гэтай канфесіі ў адраджэнскім працэсе. Менавіта дзякуючы стараням такіх людзей, як В. Гадлеўскі, быў складзены і перададзены ў красавіку 1917 года ад імя БНК мемарыял Магілёўскаму каталіцкаму архібіскупу ў Пецярбургу (гэтае архібіскупства знаходзілася ў названым горадзе). У мемарыяле выкладаліся палажэнні, якія з'яўляюцца архіактуальнымі і ў дзейнасці сучаснага касцёла на Беларусі: увядзенне ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу лекцый па беларускай мове і літаратуры, гісторыі Беларусі; прамаўляць па-беларуску да людзей у навучанні іх веры ў касцёле і школе; выданне беларускіх рэлігійных кніжак для касцёлаў і школ, а таксама часопіса; прызначаць у наш край ксяндзоў беларускай нацыянальнасці ці тых, што ведаюць беларускую мову; прызначыць на Беларусь біскупа-беларуса альбо таго, хто ўмее размаўляць па-беларуску.

Такая практыка беларусізацыі касцёла ўжо не з'яўлялася пад той час рэдкасцю. З беларускім словам звязаў сваю душпастырскую дзейнасць і В. Гадлеўскі.

Шмат у чым дапамагло касцёлу цясней інтэгравацца ў беларускае нацыянальна-культурнае жыццё правядзенне ў маі 1917 года ў Менску з'езда ксяндзоў-беларусаў. У арганізацыі яго самы непасрэдны ўдзел браў і В. Гадлеўскі. Усяго на з'езд з'ехалася 30 чалавек. З'езд выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, што нельга не прызнаць як важны крок на шляху да беларускай дзяржаўнасці. Большага патрабаваць тады ніяк не выпадала, улічваючы, што і Часовы ўрад Расіі не прызнаваў беларусаў за самабытную нацыю, атаясамліваў іх з рускімі. На фінішы самага багатага на падзеі 1917 года В. Гадлеўскага чакаў яшчэ адзін сур'ёзны іспыт на адданасць беларускай нацыянальнай ідэі. Здаваць яго давялося ў снежні 1917 года, калі ў Менску на Усебеларускім з'ездзе вырашаўся лёс нашай Бацькаўшчыны. На ім ксёндз-патрыёт займаў самыя прагрэсіўныя пазіцыі ў пытаннях дзяржаўнасці, нацыянальнай культуры, адукацыі і мовы беларускага народа. Гэта дапамагло яму стаць сябрам створанай 18 сакавіка 1918 года Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Як і ўсе нацыянальныя патрыёты, В. Гадлеўскі моцна перажываў за ўчынены суседнімі краінамі падзел беларускай этнічнай тэрыторыі. "Нашы ворагі, — пісаў ён у 1921 годзе, — якія хочуць пажывіцца беларускай зямлёй, беларускім дабром, намаўляюць нашых сялян, каб яны дамагаліся далучэння нашай Бацькаўшчыны ці то да Варшавы, ці то да Масквы, ці яшчэ некуды". Такое далучэнне, запэўніваў В. Гадлеўскі чытачоў газеты "Крыніца", не прынясе аніякай карысці Бацькаўшчыне. У сойме Варшавы ці Масквы "беларусы загінуць у вялікай грамадзе іншых дэпутатаў. Іх галасы не спрычыняцца да палепшэння долі роднага краю". Таму "ўсё наша сялянства павінна цвёрда стаяць за НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ БЕЛАРУСІ", за тое, каб мы мелі свой сойм, дзе мы былі б гаспадарамі".

Афіцыйнай каталіцкай царкве з яе яскрава выяўленай прапольскай пазіцыяй зусім не даспадобы была дзейнасць нацыянальна-самасвядомых беларускіх ксяндзоў, бо яны не жадалі працаваць на польскую ідэю. Іх святарскай службе чыніліся шмат самых сур'ёзных перашкод як з боку каталіцкага духавенства, так і дзяржавы, што ў поўнай ступені адчуў на сабе і В. Гадлеўскі. Бывалі перыяды ў яго жыцці, калі не меў ніякай магчымасці служыць у якасці ксяндза. Таму адзін час у Нясвіжы працаваў за прэфекта (начальніка) польскай гімназіі, затым у 1922 годзе падаўся ў цэнтр беларускага нацыянальна-культурнага жыцця — Вільню. Тут ён браў актыўны ўдзел у працы Беларускага нацыянальнага камітэта, у стварэнні Віленскай беларускай друкарні імя Францішка Скарыны, рэгулярна выступаў на старонках друкаванага органа Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД), штотыднёвай газеты "Крыніца" і ў іншых перыядычных выданнях.

Магчымасць ізноў вярнуцца на службу ў касцёл з'явілася ў В. Гадлеўскага толькі ў жніўні 1924 года. І ён з задавальненнем пагадзіўся, бо ведаў, што зможа прынесці шмат карысці беларускай нацыянальнай ідэі. Акурат пад гэты час віленскі біскуп Юры Матулевіч дамогся дазволу ўжываць беларускую мову ў казаннях і дадатковых набажэнствах. З першых дзён прыбыцця В. Гадлеўскага ў Жодзішскую парафію гэтую мову і пачулі з яго вуснаў вернікі, якіх увесь час да гэтага вучылі, што католік — гэта паляк. Новага ксяндза адразу палюбілі парафіяне і актыўна ўключыліся ў беларускую справу. Неўзабаве касцёл ў Жодзішках ператварыўся ў сапраўдны асяродак беларускага жыцця.

"У Жодзішскую сьвятыню зьбіраліся людзі ня толькі з блізкіх, але й з далёкіх беларускіх вёскаў і мястэчкаў. Жодзішкі сталі слаўнымі на цэлую Заходнюю Беларусь. Тады палякі пачалі дамагацца галасаваньня, але беларусы не збаяліся яго, і галасаваньне хутка адбылося каля Жодзішскага касьцёла. Хто стаяў за беларускую мову, павінен быў ісьці налева, а хто за польскую — направа. Каб-жа застрашыць людзей, польская паліцыя ўцягнула на вежу касьцельнае званіцы кулямёт і скіравала яго супраць беларусаў. Але і гэта не памагло..."

Даследчык жыцця і дзейнасці В. Гадлеўскага Вацлаў Пануцэвіч яго святарскую працу ў Жодзішках назваў "перавыхаваўчай школай для парахвіянаў. Больш ста гадоў высілкаў палянізатараў лопнулі, як мыльны пузыр".

Польскія ўлады ніяк не жадалі пагаджацца з актывізацыяй беларускага жыцця ў дзейнасці Жодзішскага касцёла. В. Гадлеўскага арыштоўвалі ў 1925 і 1926 гадах, але суд апраўдваў, лічачы неабгрунтаванымі абвінавачванні, выстаўленыя супраць яго. Затое ў наступным годзе, калі справа разглядалася ў Варшаўскім судзе, ухіліцца ад кары не ўдалося: атрымаў два гады турэмнага зняволення за прыпісаную спробу вызваліць беларускія землі з-пад улады Польшчы. Адбываў пакаранне ў Макатоўскім астрозе. Нягледзячы на цяжкія турэмныя ўмовы, змог напісаць за гэты час "Гісторыю Новага Закона", прызначаную для беларускай школы (выдадзена ў 1930 годзе ў Вільні), займаўся перакладам "Новага Тэстамента".

Пасля адбыцця тэрміну пакарання падаўся ў Вільню, дзе было вельмі актыўным беларускае нацыянальна-культурнае жыццё. Нейкі час працаваў капеланам (памочнік каталіцкага парафіяльнага святара), прэфектам школы пры кляштары бернардзінак, удзельнічаў у працы Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, Беларускага нацыянальнага камітэта, часта чытаў лекцыі і рэфераты. Здаралася і такое, што выступаў з казаннямі на беларускай мове ў касцёле св. Мікалая. Шмат карыснага зрабіў на пасадзе старшыні культурна-асветніцкай арганізацыі — Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Кіраваць ім даводзілася акурат у час найбольшага разгулу польскай рэакцыі. Калектыў гэтага інстытута праявіў сябе актыўным змагаром за беларускую нацыянальную школу, садзейнічаў папулярызацыі ў народзе культуры і мовы.

Такім Вінцэнт Гадлеўскі заставаўся да апошніх імгненняў свайго жыцця.

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА. УРОКІ ДЗЕДА ЎСЯВЕДА

**Хто я! Дзед Усявед.**
**Абышоў цэлы свет.**
**І цяпер у гэты час**
**Завітаў да вас.**

**Добры дзень, мае дарагія хлопчыкі і дзяўчынкі!**
**Калі хочаце ведаць беларускую мову і размаўляць на ёй, заставайцеся са мною. Падрыхтуйце ручку і чысты ліст, і мы з вамі пачнём урок.**

## Урок № 1.

# ПОРЫ ГОДА: *ЗІМА*

З далёкай Поўначы, з краю вечнага снегу і лёду, спавітая ў белыя пуховыя тканіны, прыехала да нас Чараўніца. Зачаравала воды нашай мілай зямелькі, і зрабіліся яны камянямі празрыстымі. Зачаравала лясы нашы. І заснулі яны сном глыбокім. Патрэсла шырокімі рукавамі сваёй пуховай вопраткі — пакрыліся палі снежнай беллю. І лёг наш край пад нагамі Чараўніцы белы... ціхі... задуменны... Ды не адна яна прыйшла, а з трыма сваімі сынамі:

**СНЕЖАНЬ** ужо адгаспадарыў.
Маразамі **СТУДЗЕНЬ** ударыў.
Пабяліў лес і кусты
І навёў, як шкло, масты.
**ЛЮТЫ** ў госці завітаў,
Гурбы скрозь панамятаў,
Поле ўкрыў ён з краю ў край —
Будзе добры ўраджай.

**А ВОСЬ ЯКІЯ СЛОВЫ ПРЫПАСЛА ДЛЯ ВАС ЗІМА:**

**Сне́жань** — декабрь.
**Сту́дзень** — январь.
**Лю́ты** — февраль.
**Зімо́вы** — зимний.
**Узі́мку** — зимой.
**Зі́мачка, зі́мка** — зимушка.
**Мяце́ліца, завіру́ха** — метель.
**Завіру́ха, заве́я** — вьюга.
**Ве́яць, ме́сці** — вьюжить.
**Завіру́шны, заве́йны** — вьюжный.
**Гуля́ць у сне́жкі** — играть в снежки.

Фота Юрыя ЗАХАРАВА.

**Снег** — снег.
**Снегавы́** — снеговой.
**Снягу́рка** — Снегурочка.
**Лёд (родны склон: лёду, ільду́)** — лёд.
**Кале́ць, карчане́ць, дубе́ць** — кочeнеть.
**Маро́з** — мороз.
**Фарбу́е** — красит.
**Я́ркі, зы́ркі** — яркий.
**Серабры́цца** — серебриться.
**Ехаць на саня́х** — ехать в санях.
**Гурба́, сумёт** — сугроб.
**Во́блака** — облако.
**Абло́кі** — облака.
**Растава́ць** — таять.
**Лядзя́ш** — сосулька.
**Лу́жына, калю́га** — лужа.
**Адлі́га** — оттепель.
**Цёплы** — тёплый.
**Шэ́рань, і́ней** — изморозь, иней.

Што вы хочаце сказаць? Некаторыя словы вы ўжо ведалі? Цудоўна! А вось незнаёмыя запомніце, потым запішыце па памяці.

Паспрабуйце скласці з новымі для вас словамі сказы, а калі хочаце — нават невялічкае апавяданне.

**ЦЯПЕР ПАСЛУХАЙЦЕ ЗАГАДКІ ЧАРАЎНІЦЫ, ЗАПОМНІЦЕ ІХ І ЗАГАДАЙЦЕ СВАІМ ЗНАЁМЫМ.**

Як пара настала,
Бабуля Арына
Усю зямлю заслала
Белаю пярынай.

(Зіма).

Усюды мне адкрыты шлях —
І на дварах, і на палях.
Сляды чужыя замятаю,
Ды і свае не пакідаю.

(Мяцеліца, завея).

Ён у адлігу нарадзіўся,
Загартаваўся у мароз.
Прыгрэла сонца —
Праслязіўся
І сцёк увесь
Ракою слёз.

(Снегавік).

Заўсёды, летам і зімой,
Мае іголачкі са мной.
Галінак у мяне багата.
Зімой прыходжу к вам на свята.

(Ёлка).

З двара
пабегла гара.
— Ці надоўга? —
спыталіся мы.
— Да новай зімы.

(Снег).

Адзін другога абганяць мы рады,
але глядзі, мой сябра, ты не падай.
Вельмі добрыя яны, нашы лёгкія...

(Канькі).

Мяне хлопалі лапатай.
І зрабілі ўсю гарбатай.
Мяне білі, калацілі,
ледзяной вадой аблілі,
а затым з мяне крутой
усе скаціліся гурбой.

(Горка).

**НЕКАТОРЫЯ ЗІМОВЫЯ ПРЫКМЕТЫ.**

- ***Прыляцелі снегіры — будзе снежна на двары.***
- ***Калі ноччу быў іней, днём снег не выпадзе.***
- ***Іней на дрэвах — на мароз, туман — на адлігу.***
- ***Доўгія ледзяшы ў канцы лютага — на доўгую вясну.***
- ***Зімой лес шуміць — на адлігу.***
- ***Добрае, яснае надвор'е на Макарыя (1 лютага) — чакай ранняга прыходу вясны, непагадзь на дварэ — вясна будзе позняя і зацяжная.***
- ***Якая пагода на Грамніцы (2 лютага), такая і вясна будзе. На Грамніцы сняжок — вясною дожджык. Снег мяце праз дарогу — будзе позняя вясна, а не мяце — ранняя.***

**А ЗАРАЗ ПАГЛЯДЗІЦЕ, ЯКУЮ ГУЛЬНЮ ПАДРЫХТАВАЎ ДЛЯ ВАС ДЗЕД МАРОЗ.**

*З дапамогай лічылкі выбіраецца Мароз:*

Ты зялёны,
Ты чырвоны,
Ты ў кажусе,
А ў цябе
Сіні нос —
Гэта ты
Дзед Мароз!

Дзеці разбягаюцца па пляцоўцы. Мароз бяжыць за імі і стараецца дакрануцца да каго-небудзь рукой. Той, да каго ён дакрануўся, лічыцца "замарожаным" і павінен спыніцца і развесці рукі ў бакі. Іншыя ўдзельнікі могуць "размарозіць" яго, пляснуўшы рукой па плячы.

Гульня праводзіцца пэўны час. Пасля кожных 3— 5 хвілін выбіраецца новы Мароз, які здолее "замарозіць" большую колькасць удзельнікаў гульні.

**Ой, што гэта ў мяне звініць у кішэні! Так, гэта мой сябар Гадзіннік. Ён кажа, што ўрок ужо закончыўся.**

**Ці спадабаўся ён вам! Пішыце мне. У далейшым я мяркую паразмаўляць з вамі пра лес, кватэру і іншае.**

**Да новай сустрэчы!**

**Падрыхтавала**
**Святлана КАРПУЧОК.**

### АДКАЗ НА КРЫЖАВАНКУ "БЕЛАРУСЬ І ЯЕ СУСЕДЗІ", ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 4.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Б | | | | |
| | | | | Е | | | | |
| | | | 1 | Л | і | т | в | а |
| | | 2 | Л | А | т | в | і | я |
| | | | | Р | | | | |
| | | | 3 | У | к | р | а | і | н | а |
| | 4 | Р | а | С | і | я | | |
| 5 | П | о | л | Ь | ш | ч | а | |

РЭХА КІНАФЕСТЫВАЛЮ

# ЦІ ЁСЦЬ БЕЛАРУСКАЕ КІНО?

**У заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата ўсесаюзных і міжнародных кінафестываляў, кінарэжысёра-аператара Юрыя Марухіна, за "плячамі" 30 аператарскіх работ, 11 іграваых і 20 дакументальных карцін, знятых ім у якасці рэжысёра.**

***— Юрый Аляксандравіч, ці патрэбны кінафестывалі, калі гавораць, што свайго кіно ў нас няма?***

— Беларускае кіно ёсць! Доказ таму — апошні фестываль у Брэсце, дзе было прадстаўлена 12 гульневых, 11 дакументальных, 7 анімацыйных карцін "Беларусьфільма", знятых за апошнія два гады. Сярод беларускіх карцін ёсць вельмі папулярныя. Я помню, што ў Маскве на "Белыя росы" Дабралюбава нельга было купіць білет. Ён пабіў усе рэкорды па наведвальнасці.

***— Што вас прывяло ў кінематограф?***

— Нарадзіўся ў сям'і цесляра. Ніхто з сваякоў не быў звязаны з кіно, а мяне з дзяцінства яно цягнула. У 1957 годзе паступіў у ВГІК. Вучоба ў ім, вядома ж, запомнілася. Бясплатныя білеты ва ўсе тэатры Масквы, акрамя Вялікага... Шмат цікавых сустрэч... Са мной на паверсе жыў Васіль Шукшын. Калі я паступіў, заканчваў інстытут Андрэй Таркоўскі. Я ў студэнцкія гады пачаў працаваць у кіно і вось 40 гадоў не расстаюся з ім.

***— Як вы апынуліся ў Мінску?***

— Дзякуючы сябру, вядомаму паэту Ігару Шклярэўскаму. Ён родам з Магілёва. Неяк на канікулы прывёз мяне ў Беларусь. Ужо тады спадабалася краіна і людзі. Затым Віктар Тураў запрасіў здымаць карціну, і я вырашыў застацца. Кінастудыя "Беларусьфільм" расцвіла пры галоўным рэдактары Аркадзю Куляшове. Ён сабраў лепшыя кадры. Адстаяў у Маскве многа карцін, якія збіраліся закрыць.

***— Сяброўствам з якімі людзьмі вы асабліва ганарыцеся?***

— З Шукшыным, Туравым, Чацверыковым, Макаравай, асабліва запомнілася дружба з Валодзем Караткевічам. Многа з ім ездзілі па Беларусі. Ён быў надзіва таленавітым і прыстойным чалавекам. Лепш за яго ніхто не ведаў гісторыю Беларусі. Па кожнаму яго твору можна ставіць фільм. У мяне да гэтага часу яго выдатныя сцэнарыі. Браўся іх ставіць, але, на жаль, не мог скончыць. Патрэбны вялікія грошы — гэтага патрабуюць дэкарацыі замкаў, старадаўнія касцюмы...

***— Які плён вашага супрацоўніцтва з амерыканскім рэжысёрам Менахемам Голанам?***

— Ён шукаў кінастудыю, дзе можна танна і якасна зрабіць фільмы, і знайшоў яе тут, у Мінску. На "Беларусьфільме" мы сумесна паставілі пяць карцін: "Маскоўская сувязь", "Луіза і Джэк Пот", "Супермозг", "Шлях да славы", "Разрываючы цішыню". З Менахемам было цікава працаваць.

***— Над чым працуеце цяпер?***

— З Ігарам Волчакам пачалі здымкі іграваога фільма "Павадыр". Скончылі пробы. Ігар знайшоў вельмі добрага акцёра на галоўную ролю. Марат Башараў — прыгожы хлопец з незвычайнай усмешкай. Калі нам давядзецца здымаць беларускую актрысу, якая цяпер у Амерыцы, будзе выдатная пара. Сцэнарый Сашы Качана. Ён з Пінска, скончыў ВГІК. Яго навелы выдатныя. Я з задавальненнем іх буду здымаць.

***— Можна даведацца пра вашу сям'ю?***

— У мяне жонка Нэля і дачка Дар'я, якая ўзнагародзіла нас унучкай. Калі Кацярына чапляецца за маю бараду, то гэта — лепшы адпачынак для мяне.

***— Спадзяюся, на гэтым адпачынак не канчаецца?***

— Самае вялікае захапленне — рыбалка. Я аб'ездзіў усе рэкі Беларусі. З Ігарам Шклярэўскім былі больш чым на 40 паўночных рэках. Кожная паездка давала столькі сіл, што я назапашваў энергіі на цэлы год.

**Артур МЕХЦІЕЎ.**
("7 дней").


«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**

**РЭДАКЦЫЯ:**
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 518.
Падпісана да друку 21.2.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).